http://navinki.port5.com

# НАВІНКІ

31 зеня - 11 лютага 2002 №1(50)

Аста ла віста,
апошні дыктатар
Эўропы!

# TERMINATOR 3

## THE LAST DICTATOR OF EUROPE

Падрабязнасьці на стар. 2

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур.
Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.
Нумар падпісаны да друку 30.01.2002г., а 00.01. Тыраж 4200 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 242

## Навінкі ў адзін радок

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Што выяўлена на новай купюры НБ РБ наміналам 20 000 руб.?**
А. Каралева Елізавета.
Б. Палац Паскевічаў-Румянцавых.
В. Вежы Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру.

**2. Каго абралі старшынёй Цэнтарвыбаркаму?**
А. Лідзію Ярмошыну.
Б. Дэвіда Капэрфільда.
В. Віктара Ганчара.

**3. Колькі банкаматаў існуе ў Магілёве, дзе з 1 лютага заробкі некаторых бюджэтнікаў будуць пераводзіць на банкаўскія карткі?**
А. Безьліч.
Б. 2.
В. 3.

**4. Які вядомы тэлевядучы сыйшоў з каманды БТ?**
А. Дзед-Барадзед.
Б. Ягор Хрусталёў.
В. Аляксандар Лукашэнка.

**5. Закрыцьцё якой праграмы на беларускім радыё выклікала хвалю пратэстаў рэлігійных арганізацыяў?**
А. Гімн а шостай гадзіне раніцы.
Б. Праграма У.Бубна для прыхільнкаў стылю industrial «Затерянный мир».
В. «Голас душы».

**6. Музыка якога твору па словах нам. міністра культуры хутчэй за ўсё стане асновай новага гімну РБ?**
А. Гімн БССР.
Б. «Ай-ай-ай, девчонки...».
В. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**7. Пасьля забароны гандлю тытуню ў камках дзе можна будзе набываць цыгарэты?**
А. У аптэцы па рэцэпту анколяга.
Б. У цыганоў-наркадылераў на Зімняй.
В. У дзяржаўных крамах.

**8. Дзяржава высякае Белавескую пушчу, спасылаючыся на тое, што ў кары дрэваў завёўся:**
А. Шашаль-дыплямат.
Б. Лесьнікі.
В. Нелегальныя эмігранты са Шры-Ланкі.

**9. Што забараніў праводзіць салігорскім шахцёрам Менскі абласны суд?**
А. Забастоўку.
Б. Конкурс бальных танцаў.
В. Выпрабаваньне падземнай атамнай бомбы.

**10. Хто трапіў разам зь Беларусьсю ў склад адборачнай групы чэмпіянату Эўропы 2006 году?**
А. Чэхія, Галяндыя, Аўстрыя, Малдова.
Б. Зборная Беларусі па хакею, гросмайстар Гельфанд.
В. Каманда КВН БДУ.

**11. За што ўзбуджаная крымінальная справа супраць аднаго зь лідэраў руху «Зубр» Аляксандра Атрошчанкава?**
А. За абразу Прэзыдэнта.
Б. За безьбілетны праезд у тралейбусе.
В. За выкраданьне і забойства Завадзкага.

**12. Дзе пройдзе XIX зімовая Алімпіяда?**
А. У Шклове.
Б. У Солт-Лэйк-Сіці.
В. У Кабуле.

**13. Хто такі Рэрых, чыя выстава адкры-лася ў Музэі Вялікай Айчыннай вайны?**
А. Піянэр-герой, паплечнік бацькі Міная.
Б. Мастак-філёзаф.
В. Фашысцкі кат.

**14. Якія краіны Буш назваў спонсарамі тэрарыстаў?**
А. Ірак, Іран, Паўночная Карэя.
Б. Цілі-Мілі-Трамдзія.
В. Ватыкан.

**Правільныя адказы**: 1-Б, 2-А, 3-Б, 4-Б, 5-В, 6-А,7-В, 8-А, 9-А, 10-А,11-А, 12-Б, 13-Б,14-А.

# From Belarus With Love

*Напярэдадні Дня СьвВалянціна прызнаньне ў каханьні атрымаў ня толькі Шварцэнэгер (на стар.1)*

Малады Фронт у чарговы раз даказаў усяму сьвету, што сыстэма полавай і маральнай адукацыі ў Беларусі кульгае на абедзьве нагі. Наша моладзь, нягледзячы на наплыў мэсіянэраў і дзьве пасхі ў календары, гатовая гандляваць сваім целам і пачуцьцямі направа й налева. Да такой высновы прыходзіш пасьля кантэнт-аналізу апошняга эпісталярнага шэдэўру Маладога Фронту: «Адкрытага лісту да знакамітых эўрапейцаў», прымеркаванага да 14 лютага – Дня закаханых.

Што аб'ядноўвае прэм'ера эўрафоба Італіі Сыльвіо Бэрлусконі і прагрэсіўнага пісьменьніка Умбэрта Эка, брытанскую імпэрыялістку Тэтчар і ірляндзкага сэпаратыста Джэры Адамса, састарэлую зорку савецкай эстрады Раймонда Паўлса і ультрамадэрновую Б'ёрк, элітарнага Кшыштафа Занусьсі і героя экранаў для падлеткаў мардаварота Арнольда Шварцэнэгера? Нічога, акрамя аднаго: безадказнага каханьня простых беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак з Маладога Фронту, якія ўсім азначаным антаганістам, што побач і дрыстаць ня сядуць, даслалі шчырае прызнаньне ў каханьні. **«Мы пішам Вам гэты адкрыты ліст напярэдадні 14 лютага, Дня Сьвятога Валянціна, сьвята маладых і закаханых. Паводле традыцыі найноўшае беларускае гісторыі, вось ужо шосты год, у гэты дзень беларуская моладзь выходзіць на вуліцы гарадоў зь лёзунгам «БЕЛАРУСЬ У ЭЎРОПУ!» – і прызнаецца ў любові да эўрапейскіх краінаў.»**

Адзначым, што за сваё няхітрае юнацкае каханьне маладафронтаўцы назначылі даволі высокі кошт: аказаць пасільную дапамогу і закінуць слаўцо ў абарону геапалітычных ідэяў Маладога Фронту: **«Паверце, для беларускае моладзі Вашае слова будзе значыць вельмі шмат: Вас ведаюць і любяць мільёны беларусаў. БЕЛАРУСЬ У ЭЎРОПУ!»**.

Ня будзем ставіцца як ханжы да шакіруючых дамаганьняў лалітаў з Маладога Фронту да іншаземцаў. Магчыма, яны вырашылі паўтарыць подзьвіг біблейскай куртызанкі Юдзіф, якая ахвяравала целам дзеля свабоды Ізраілю. Цепліцца надзея, што ў далекай Каліфорніі касталом Арнольд, прачытаўшы ў лісьце, што ён – «увасабленьне эўрапейскай культуры і цывілізацыі», заб'е на галівудзкія кантракты, возьме стары драбавік і адправіцца ў цэнтар Эўропы, каб дзеля сэансу пэтынгу з Пашам Севярынцам запарафініць апошняга дыктатара Эўропы ●

**Сыльвэстар Сталонэ,**
стопрацэнтны амэрыканец

GRANDMAS · ANAL · CORPES · BEASTIALITY · CUNILINGUS · ANULINGUS · LOLITAS · FISTING · HARDCORE

## КрыміНАл

### Валютчыкі з М(В)Ф

Нарэшце пацьвердзілася інфармацыя пра прадажнасьць «незалежнай журналістыкі». На прэс-канфэрэнцыі 14 студзеня «Малады Фронт» заплаціў прысутным журналюгам «за ўдзел» па купюры ў 5 эўра, парушыўшы адразу тры артыкулы заканадаўства.

1. Публічная раздача эўра. (Ажыцьцяўленьне незаконных валютных апэрацыяў, дэкрэт прэзыдэнта №1 за 1999 г., канфіскацыя прадмету зьдзелкі і штраф або арышт да 15 сутак).
2. Раздача бабак журналістам. («Подкуп службовай асобы пры выкананьні службовых абавязкаў – да 2 гадоў пазбаўленьня волі).
3. Махлярства. Нягледзячы на тое, што бабло было паабяцанае ўсім, частцы журналістаў яго аддалі толькі праз тыдзень, а яшчэ частку (у якую ўваходзіў і ваш пакорны слуга) – увогуле КІНУЛІ! Пакараньне ў гэтым выпадку прадугледжанае сур'ёзнае: паводле КК да 5 гадоў з канфіскацыяй. Паводле ж нармальных панятак Севярынец мусіць быць пастаўлены на лічыльнік і, калі не аддасьць бабло, можа быць знойдзены ў Сьвіслачы з прывязаным да ног гадавым камплектам *Навінак*.

# У дапамогу арбітрам духоўнасьці

Як піша кампэтэнтны *Вечерний Минск*, сталічнае ўпраўленьне адукацыі паклала вока на інтэрнэт-клюбы, якіх у горадзе расплодзілася як тых караедаў-тыпаграфаў у Белавескай пушчы. Караеды грызуць кару дрэваў, пасьля чаго лес прыходзіцца секчы й за валюту прадаваць на Захад. Інтэрнэт-клюбы грызуць дзіцячую сьвядомасьць, пасьля чаго падлеткі становяцца заклапочанымі вычварэнцамі. Іншымі словамі, як кажа высокапастаўлены клерк з аддзелу адукацыі Т.Селезень, гарадзкія ўлады ня ўпэўненыя, што «інфармацыя, якую атрымліваюць у клюбах падлеткі, не наносіць шкоды іх маральнаму здароўю». Бліжэйшым часам уладальнікам гэтых установаў трэба чакаць у госьці інспэктараў аддзелу адукацыі, якія будуць трэсьці памяць іх кампутараў. Барані бог візыторам дакапацца, што з гэтага кампа лазілі на нейкую порнастаронку!

Ну што ж, вынішчыць апосталаў пароку – сьвяты доўг роднай мэрыі. Аднак нараджаецца сумнеў, ці ёсьць для гэтага ў муніцыпалітэту неабходныя інтэлектуальныя рэсуры. Калі інспэктары гарвыканкаму калі-небудзь і юзалі кампутар, усё роўна яны наўрад ці прасякаюць спэцыфічны слэнг, якім майстры порна-сайтаў кадзіруюць свае паслугі. Напрыклад, ці ведае тая ж спадарыня Т.Селезень, якая сабралася раскідаць гнёзды віртуальнага пароку, што такое cucumber fucking ass і чым, напрыклад, ён адрозьніваецца ад spread assholes або ад toying her ass? Сумняюся. Малапісьменнасьць чыноўнікаў дае лазейку для разбэшчвальнікаў выратавацца ад вогнішча сьвятой інквізыцыі. Каб дапамагчы крыжакам маральнасьці, рэдакцыя друкуе невялікі тэст кадзіровак найбольш распаўсюджаных полавых вычварэньняў. Вучыце іх, і ніводны распусьнік не міне кары! ●

**Ігнат Лаёла**

# Голь на выдумку хітра

## Новы Закон хоча абрубіць кісларод аматарам прыватных аб'яваў

Як нам стала вядома, любімым урадам заплянаваныя мерапрыемствы супраць неарганізаванага гандлю, што зьдзейсьніваецца прыватнымі асобамі без усялякай рэгістрацыі ў выглядзе разьмяшчэньня аб'яваў аб куплі і продажы тавараў у спэцыялізаваных выданьнях кшталту *Из рук в руки*. У сакавіку плянуецца падрыхтаваць праект Закону «Аб унясеньні зьменаў і дадаткаў у Закон РБ «Аб рэкляме», у якім «прадугледжваецца прыняць меры супраць выкарыстаньня сродкаў масавай інфармацыі фізычнымі асобамі ў мэтах зьдзяйсьненьня незарэгістраванай прадпрымальніцкай дзейнасьці» (*Белорусский Рынок*). Што гэта значыць у перакладзе на нармальную чалавечую мову? Тое, што закончыліся дзянькі, калі праз старонкі *Из рук в руки* можна было сьпіхнуць хоць ядзерны рэактар, не заплаціўшы пры гэтым ані рубліка падаткаў. Цяпер любыя продаж-купля павінны быць афармленыя праз дзяржаўныя канторы. Ня цяжка ўявіць рэакцыю насельніцтва. Толькі ёлупень пацягне кроўныя ў Міністэрства па падатках і зборах. Сярэднестатыстычны дзядзя Вася, жадаючы штурхнуць патрыманы прас альбо сьвяцільнік, проста вырве з сшытку ліст, напіша на ім аб'яўку і павесіць на лякальным прыпынку. Думаецца, што дзяржава, прагназуючы такую рэакцыю грамадзянаў, улічыць у законе і гэты аспэкт. На ўсялякі выпадак, каб ня трапіць пад ціск падаткавай, прапануем шукаць новую лексыку аб'яваў, якая б не давала падставы да падазрэньняў у незарэгістраваным гандлю. Паболей фантазіі – і вам ня страшны аніякі АБЭЗ ●

Абьявление
Аддам [illegible] у хорошем состоянии добрыя руки

Колекцыонер
Поменяет кофеварку "Мулинэкс" (б/у) на новую купюру 20.000 руб.

***Вось такога кшталту аб'явы ў хуткім часе запоўняць слупы і будкі прыпынкаў.***

**Лёня Галубкоў**

# Дзе хаваецца шайтан

Здаецца, нікога ўжо не зьдзіўляе, што аб'яднаная контартэрарыстычная кааліцыя дагэтуль ня можа знайсьці лідэра руху «Талібан» мулу Амара. Затое як усе зьдзівіліся, калі пры вобшуку катэджу, пабудаванага мулой Амарам для сябе непадалёк ад Кандагару, амэрыканскі спэцназ не знайшоў ніводнага ўнітаза! Справа, канешне, ня ў тым, што лідэр «Талібана» лавіў кайф ад забруджваньня бліжэйшага хмызьнячку. Ягоны катэдж быў абсталяваны традыцыйнай афганскай земляной прыбіральняй, пабраціма якой дагэтуль можна пабачыць на аўтавакзалах у некаторых райцэнтрах Беларусі ці паўсюдна ў вёсках. Гэта калі ў цэнтры невялічкай драўлянай хаткі выкапаная яма, куды ўсё й робіцца.

Знаходка амэрыканскіх рэйнджэраў па новаму дазваляе падысьці да трактоўкі такога, здавалася б, банальнага прыстасаваньня як унітаз. Фактычна, ён ёсьць нічым іншым, як галоўным сымбалем, мэтафарай і ўвасабленьнем НТР, заходніх тэхналёгіяў, да якіх так варожа ставяцца ісламскія фундамэнталісты. Як вядома, стрыманасьць у адносінах да дасягненьняў заходняй навукі й тэхнікі тлумачыцца тым, што спачатку прыходзяць тэхналёгіі, а потым і паўсюднае засільле ўсяго заходняга. Тое, што ад унітазу да кампутару адзін крок, даказаць гэтак жа проста, як два пальцы абас..ць ●

**Гельмудын Хекмаціяр**




*Гэтая схема красамоўна ілюструе непарыўную сувязь усіх прадуктаў заходняй цывілізацыі, хай то кампутар, унітаз ці прэзэрватыў*



## ПрАйс-лІст

### Колькі каштуе мент

Нарэшце скончылася судовае разьбіральніцтва з чатырма ўдзельнікамі славутага «Маршу свабоды», якое цягнулася з 1999 году. Падсьледным (якія, між іншым, даўно ўжо сядзяць у суседняй Польшчы й ня парацца) інкрымінавалася зьбіцьцё 98 (!) міліцыянтаў. Аднак ня гледзячы на такое страшнае па сваіх маштабах злачынства, айчынная юрыдычная сыстэма праявіла літасьць і вынесла наступны прысуд: Герман Сушкевіч, Андрэй Валабуеў, Глеб Догель і Антон Лазараў павінны выплаціць дзяржаве па 50 мінімальных зарплат.

Шляхам няцяжкіх арыфмэтычных падлікаў мы можам атрымаць суму, у якую дзяржава ацэньвае кошт здароўя аднаго ахоўніка правапарадку. Такім чынам, 50 мінімальных заробкаў (1 мінімалка сёньня роўная 10 тысячам рублёў) памнажаем на 4 хуліганы і дзелім на 98 пацярпелых мянтоў. У выніку атрымліваем, што адхірачыць камянямі омана каштуе ўсяго 20408 бел. руб., альбо па-нашаму прыкладна 12 баксаў. Гэта роўна 8,1 бутэлек гарэлкі «Крышталь-люкс Новы», або 42,6 батлоў «Аліварыі-Граф Чапскі зь ядлоўцам».

Так што, задумайцеся, спадары ананімныя апазыцыянэры-алькаголікі: можа, надыйшоў час завязваць?

# Сьмерць глябалізацыі!

**Быў камсамольцам,**
**быў піянэрам,**
**Быў камуністам-функцыянэрам.**
**Па прафсаюзнай лініі йшоў –**
**Месца свайго ў жыцьці не знайшоў.**
**Паспрабаваў нават стаць**
**прэзыдэнтам,**
**Але крыху не хапіла працэнтаў.**
**Потым мысьля асяніла ўва сьне:**
**Гэта буржуі падкурвілі мне!**
**Колькі ні думай – выйсьце адно:**
**ГЛЯБАЛІЗАЦЫЯ – гэта хаўно!**
**Буду да скону яе я мачыць,**
**Буду McDonald's каменьнем бамбіць.**
**Надоўга буржуі запомняць мяне –**
**Хопіць працоўным жыць у ярме!**

Пасьля канфузу дэмакратаў на выбарах 9 верасьня, былога «адзінага кандыдата» Ўладзіміра Ганчарыка журналісцкі цэх пасьпяшаўся запісаць у палітычныя мерцьвякі. Быццам пацьвярджаючы іхнія словы, сам Уладзімір падаў у адстаўку з пасады старшыні ФПБ і ўладкаваўся на цёпленькае мястэчка ў Выканкаме Канфэдэрацыі Прафсаюзаў СНД. Аднак, як аказалася, беларускага Каштуніцу яшчэ рана сьпісваць ва ўтыль. Са спасылкай на расейскую прафсаюзную шышку Рыбакова газэта *Беларускі Час* піша, што на новай пасадзе сп.Ганчарык зоймецца барацьбой з наступствамі глябалізацыі: «У барацьбе зь імі байцоўскі досьвед экс-кандыдата ў прэзыдэнты можа аказацца вельмі карысным». Гэта значыць, што мы яшчэ неаднаразова пабачым нашага земляка на шумных маніфэстацыях антыглябалістаў. Але ўзрадуйцеся, праклятыя буржуіны! «Баец» Ганчарык з задавальненьнем прадэманструе і вам свой «беларускі досьвед»: прайграе вырашальную бітву, на гэты раз – з дыктатурай трэнснацыянальных карпарацыяў ●

**П'ер Бурдзье,**
прагрэсіўны сацыёляг




*Экс-кандыдат у прэзыдэнты Ганчарык на барыкадах*

## Памёр П'ер Бурдзье

**З болем у сэрцы павінны паведаміць пра сьмерць нашага любімага левага сацыёляга П'ера Бурдзье. Бурдзье, выкладчык College de France, удзельнік усялякага роду палітычных актыўнасьцяў, аддаў канцы ўноч на 24 студзеня. Ён крытыкаваў глябалізацыю й увёў у сацыялёгію тэрміны «сымбалічны капітал», «габітус», «поле». У асноўным ён пісаў такімі фразамі: «Імкненьне парваць зь юрыдызмам ды абгрунтаваць адэкватную тэорыю практыкі вяло мяне ад нормаў да схемаў і ад сьвядомасных памкненьняў альбо эксплiцытных плянаў разважлівай сьвядомасьці да змрочнай інтуіцыі практычнага адчуваньня». Ніколі больш ён ужо не напіша такой фразы...**

# Au Pair для Адамовіча

## Знакаміты беларускі пясьняр бадзяецца ў пошуках працы

Уся калябагемная грамадзкасьць сталіцы ўзбаламучаная жахлівай навіной: Славамір Адамовіч – беспрацоўны! Замест таго, каб цалкам аддацца музе й пісаць свае творы, карыфэй сучаснай беларускай літаратуры і выбітны дзеяч нацыянальнага руху вымушаны прабівацца выпадковымі заработкамі. Відаць, вяртаюцца часы, калі людзі мастацтва зараблялі на жыцьцё працай дворніка або качагара. Ня ў лепшых умовах апынуўся й Славамір. Камэра нашага фотакарэспандэнта злавіла некалькі момантаў зь цяжкіх працоўных будняў знакамітага паэта і літаратара. Пагадзіцеся, хіба ў такіх умовах напішаш чарговага «Забі прэзыдэнта»?! Усе, хто можа выправіць сытуацыю й дапамагчы Славаміру знайсьці адпаведную ягонай асобе працу, просьба зьвязвацца праз кантакт, пазначаны ў нашай рубрыцы «Дошка аб'яваў» на стар.15 ●









# Мармонская алімпіяда

## XIX зімовыя алімпійскія Гульні былі купленыя дэструктыўнай сэктай

**Праз нейкіх пару дзён, 9 лютага гэтага году ў амэрыканскім горадзе Солт-Лэйк-Сіці (штат Юта) запаліць сваё вогнішча XIX зімовая Алімпіяда. Зьява на першы погляд банальная: чарговы раз беларускія біятланісты возьмуць жменю мэдалёў, а фігурысты зноўку аблажаюцца й паедуць дахаты з пустымі кішэнямі. Аднак гэта толькі на першы погляд. Сёлетняе сьвята зімовага спорту было азмрочанае гучным зацяжным скандалам у Міжнародным Алімпійскім Камітэце вакол карупцыі, хабарніцтва й подкупу службовых асобаў у кіраўніцтве МАК, што трывае вось ужо чатыры гады. Інтрыгай нумар адзін стала пытаньне: якім чынам зачуханы правінцыйны Солт-Лэйк Сіці – больш вядомы ў ЗША як цэнтар амэрыканскай сэкты мармонаў – стаўся сталіцай зімовай Алімпіяды.**



Алімпіяда ў Солт-Лэйк-Сіці: спартовае спаборніцтва ці мармонская «эвангелізацыя»?

### «Трыюмф волі» па-мармонску

Нашто мармонам Алімпіяда – пытаньне недарэчнае. Ужо зараз відаць, што яны зьбіраюцца выкарыстаць спартовыя спаборніцтвы ў сваіх місіянэрскіх мэтах. Каб ахмураць сваёй прапагандай спартоўцаў з розных краінаў, тонамі друкуецца прапагандысцкая літаратура. Напрыклад, узгаданая «Кніга Мармона» – мармонская біблія – надрукаваная мільённымі тыражамі на розных мовах. Вядучыя друкарні штату атрымалі агромныя заказы на друк падобных праклямацыяў. На агітацыйныя мэты ўжо выдаткаваныя велізарныя сумы. І гэта толькі тое, што можна разгледзець бяз лупы, Урыма і Туміма.

Падобная практыка не зьяўляецца выключным ноў-хаў «сьвятых». Узгадайма хаця б алімпіяду 1936 году ў Бэрліне, якая мусіла служыць прапагандзе магутнасьці нацызму й дэманстрацыі непераможнага арыйскага духу. Або Маскву-1980, што сьведчыла ўсяму сьвету пра перавагі сацыялістычнага шляху разьвіцьця і блізкасьць канца капіталістычнага ладу. Сэктанты зь Юты, відаць, таксама прэтэндуюць на канчатковую перамогу марманізму ўва ўсім Сьвеце.

### Мармонскія «трыццаць срэбнікаў»

Інфармацыя пра непасрэдны ўдзел у арганізацыі Алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сіці г.зв. «Царквы Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён» (больш вядомая як сэкта мармонаў) зьвілася ў прэсе далёка не зь «неправераных крыніцаў», а з вуснаў сёньняшняга прэзыдэнта аргкамітэту XIX зімовых гульняў містэра Міта Ромні. Паводле ягонага адкравеньня мармонская «Царква...» адкрыта ахвяравала на арганізацыю гульняў 5 мільёнаў даляраў. Яшчэ 15 мільёнаў пайшлі як «прыватныя ахвяраваньні» з кашалькоў вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячоў штату – мармонаў паводле веравызнаньня.

Колькі ж было рэальна патрачана мармонамі на хабары сябрам ЦК МАК і подкуп алімпійскай намэнклятуры ўсіх узроўняў, засталося невядомым і наўрад ці паддаецца падліку. Дзякуючы шырокаму лабіраваньню (а ў родным штаце яны сапраўды нагадваюць спрута, што абчытаўся «Кнігі Мармона»), мармонам удалося замяць скандал з подкупам службовых асобаў і пакупкай права на правядзеньне алімпійскіх гульняў. У газэтах апублікавалі сьлёзнае пакаяньне былой сакратаркі Ўэлша, зь ліста якой аднаму зь сябраў Рады дырэктараў аргкамітэту ўсё й пачалося. Тая прызналася, што на гэты крок яе нібыта штурхнула міжнародная антыалімпійская й антымармонская закуліса. У выніку суд, які ішоў з кастрычніка 2001 году, адкінуў усе абвінавачаньні на адрас ужо экс-прэзыдэнта Т.Уэлша і Д.Джонсана. Цікава, што галоўным аргумэнтам абароны было тое, што... «такая карупцыйная практыка зьяўляецца сёньня агульнапрынятай у сусьветным алімпійскім руху»! Суд, вядома ж, паверыў.

### Не мыцьцём, дык катаньнем

Кандыдатура Солт-Лэйк-Сіці ў сьпісе прэтэндэнтаў на правядзеньне «Белай Алімпіяды» фігуруе ўжо больш за 40 гадоў. Першая спроба стаць алімпійскай сталіцай была зробленая яшчэ ў далёкім 1966 годзе, калі Горад Салёнага Возера саступіў у барацьбе за правядзеньне XI Гульняў-1972 японскаму гораду Сапара. Чарговыя дзьве патугі таксама скончыліся лажай. І толькі з чацьвертай спробы Солт-Лэйк-Сіці дабіўся права прымаць у сябе аматараў паганяць на лыжах і санках.

Аднак як толькі была абвешчаная чарговая алімпійская сталіца, у прэсу прасачылася інфармацыя пра тое, што заявачны камітэт Солт-Лэйк-Сіці аплочваў навучаньне отпрыскаў некаторых сябраў МАК у коледжах і ўнівэрсытэтах Юты, што для дачкі аднаго зь іх, аматаркі лабаць Баха на піяніна, арганізавалі канцэрт, і г.д. Распачаўся грандыёзны скандал, у які былі ўцягнутыя амаль усе, хто нейкім чынам прыдаўся ў арганізацыі гэтых Гульняў. У цэнтры скандалу апынуўся прэзыдэнт аргкамітэту Алімпіяды Том Уэлш і ягоны намесьнік Дэйв' Джонсан, якія прадсталі перад судом у кастрычніку 2001 году па абвінавачаньні ў арганізаванай карупцыі з мэтай прыцягненьня Зімовай Алімпіяды 2002 воду ў Солт-Лэйк-Сіці. Супраць іх было высунута агулам 15 абвінавачаньняў. Дарэчы, гэта самыя высокапастаўленыя чыноўнікі алімпійскага руху за ўсю ягоную гісторыю, якія апынуліся перад судом па падобных абвінавачаньнях.

### Чорная метка Самаранча

Ангельская газэта Times апублікавала «чорны сьпіс» 13 сябраў МАК, якія былі заўважаныя ў атрыманьні хабараў (у той ці іншай форме) ад аргкамітэту Зімовай алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сіці. У яго ўвайшоў расеец Віталій Сьмірноў, сябра МАК з 1971 году, яму інкрымінуецца адпраўка прыёмнага сына ў Солт-Лэйк-Сіці, дзе таму выплочвалі стыпэндыю, а потым падшукалі працу.

Кампанію Сьмірнову склала Пір'ё Хегман з Фінляндыі, сябра МАК з 1981 году. Яе муж удзельнічаў у фінансаваньні некалькіх праектаў у Солт-Лэйк-Сіці, зьвязаных з Алімпіядай.

Жан-Клод Ганга (Рэспубліка Конга), былы міністар спорту гэтай краіны, выбраны ў МАК у 1996 годзе. Абвінавачваецца ў атрыманьні 70 тысяч баксаў, махінацыях зь зямельнымі ўчасткамі і мэдыцынскай дапамогі за кошт камітэту.

Сэрхіо Сантандэр (Чылі), сябра МАК з 1992 году. Прэзыдэнт заявачнага камітэту ў Солт-Лэйк-Сіці сьведчыць, што даў яму 10 штук даляраў падчас выбарчай кампаніі мэра Сант'яга.

Аўгустын Ароё (Эквадор), сябра МАК з 1968 году. Ягоная дачка атрымала працу ў эканамічным дэпартамэнце штату Юта, да таго ж узяў ад аргкамітэту Солт-Лэйк-Сіці 5 тысяч грыноў нібыта на авіябілеты.

Антон Гісінк (Нідэрлянды), сябра МАК з 1987 году, у мінулым калега Пуціна – алімпійскі чэмпіён па дзюдо. Атрымаў 5 тысяч баксаў у свой уласны фонд, дзякуючы якому «займаецца прапагандай алімпійскіх ідэяў».

Давід Сыбандзэ (Свазылэнд), сябра МАК з 1984 году. Ягоны сын Сіба, скончыўшы ўнівэрсытэт у Юце, уладкаваўся на працу ў службу эканамічнага разьвіцьця Солт-Лэйк-Сіці.

Басір-Махамад Атарбулсі (Лівія), сябра МАК з 1977 году. Дзякуючы «гуманітарнай дапамозе» ад заявачнага камітэту Солт-Лэйк-Сіці, ягоны сын закасіў ад прызыву на вайсковую службу.

Абвінавачаньні супраць яшчэ 4 сябраў МАК пакуль што не агучаныя, а імя 13-га карупцыянэра ўвогуле засталося інкогніта.

Забягаючы наперад, адзначым, што вынікам разьбіральніцтваў стала звальненьне з МАК 10 чалавек, яшчэ некалькі сышлі «па ўласным жаданьні». Аднак гэта яшчэ не канец. Як паабяцаў Прэзыдэнт МАК Хуан-Антоніо Самаранч, чыстка шэрагаў адбудзецца на чарговай сэсіі МАК, прызначанай на 17-18 сакавіка ў Лазане ●

## Алімпіяда па...









Пачын Сьвятых Апошніх Дзён – першых сэктантаў, якія здолелі выкарыстаць алімпіяду дзеля прапаганды сваіх прынцыпаў, напэўна выклікае зайздрасьць гуру іншых культаў. Яны таксама пастараюцца запалучыць да сябе алімпійскія гульні, а сам алімпійскі рух паступова стане справай заклапочаных сэктаў, якія будуць гатовыя даць чыноўнікам МАК любы хабар за права стаць гаспадарамі алімпіі. Наступны крок: рытуалы сэктаў пачынаюць набываць статус алімпійскіх дысцыплінаў.

Гэтак, напрыклад, рэлігійны рух растаманаў, які трактуе паленьне марыхуаны як шлях ад прыземленага сьвету да бога Джа, падмажа Міжнародны Алімпійскі Камітэт увесьці ў кадастар алімпійскіх дысцыплінаў свой варыянт хакею на траве. Сэнс гульні – раскумарыцца ганджам гэтак, каб першым, чым твой партнэр, пабачыць перамогу сваёй каманды (**1**).

Выкарыстаць алімпійскія гульні можа і сэкта скапцоў. Скапцы вучаць, што трэба вырачыся ад разгульнага жыцьця, а замацаваньне ў сэрцы новай веры прайсьці праз выдаленьне полавых залозаў (у жанжын саскі, у мужчын тэстыкулы (матня). Само сабой напрошваюцца правілы гульні: хто болей аскапіў, той і чэмпіён (**2**).

Таксама ня бедная сэкта Аум Сэнрыкё (Рух Ісьціны). Найбольш вядомай ініцыяцыяй прасьвятленьня зьяўляецца выжываньне ў парах газу зарыну (апробаваны ў Такійскім мэтро ў 1994г.). Цяпер акрамя прасьвятленьня выжыўшыя ў газавай камэры будуць атрымліваць залаты мэдаль (**3**).

Нарэшце, апошні крык моды – сэкта трансцэндэнтальнай мэдытацыі Махарышы Махеша. Сэнс у мэдытацыі заключаецца ў тым, каб скакаць на батуце, сьпяваючы мантры да самай поўнай адключкі. Вось вам новы разрад спартовай гімнастыкі (**4**).

## ВакОл СьвЕту

### Візытоўка штату Юта

А цяпер зробім невялічкую экскурсію ў гэты самы штат Юта, сталіцай якога й зьяўляецца Солт-Лэйк-Сіці. Юта, як ужо ўзгадвалася, зьяўляецца найбуйнейшым анклавам дзейнасьці сэкты мармонаў. Адэпты «Царквы Ісуса Хрыста сьвятых апошніх дзён» складаюць тут тры чвэрці ад усяго насельніцтва штату. Залішне казаць, што пры такіх раскладах пазыцыі царкоўнікаў ува ўсіх сфэрах сацыяльнага й палітычнага жыцьця штату проста выключныя. Усе вядучыя ўладныя пасады займаюць прадстаўнікі сэкты. Губэрнатар штату, судзьдзі, кангрэсмэны і сэнатары ад штату – усе прававерныя пасьлядоўнікі Джозэфа Сміта, таго самага, што настрачыў «Кнігу Мармона», выдаўшы яе за боскае Адкрыцьцё.

Куды ні пхніся ў Солт-Лэйк-Сіці – на ўсім ляжыць адбітак пурытанскай маралі. Прычым законы, прынятыя ў мармонаў, афіцыйна распаўсюджваюцца на ўвесь штат. Дасуг адзін – у царкве маліцца. Забаваў – нуль. Гарэлкі зь півам не наліюць («сухі закон» – штраф), мінет ня зробяць (зьняволеньне), трахацца можна толькі ў місіянэрскай позе. Адзіная атрада – мнагажэнства, якое прапаведуюць «сьвятыя апошніх дзён». Афіцыйна яно было скасаванае яшчэ ў 1890 годзе, але ў Юце дасюль хапае такіх, хто нелегальна ўтрымлівае гарэм. Нядаўна ў Солт-Лэйк-Сіці адбыўся шумны працэс над мармонам, які сваёй 15-й жонкай выбраў 16-гадовую дзяўчынку. Пры гэтым усе 15 жонак уступіліся за свайго супруга і патрабуюць вызваліць яго.

Юта – самы «белы» штат ЗША. Каляровых тут не сустрэнеш на вуліцах. Яшчэ пару гадоў таму мясцовы Ўнівэрсытэт імя Брыгема Янга – рэлігійны цэнтар мармонства – афіцыйна не прымаў афраамэрыканцаў. Цяпер не прымае неафіцыйна.

Затое бізнэсмэны ў Юту цягнуцца касякамі. Бо тут нізкія падаткі і «лібэральныя» законы ў галіне абароны працы, экалёгіі і г.д. Лібэральныя па-раманчукоўску: прафсаюзаў амаль няма, кожнаму рабацягу можна даць пад зад, а прыродзе хоць у рот давай.

# Кніжкі-малышкі

*29 студзеня ў Бібліятэцы імя Я.Купалы на сьвет абрынуліся графаманскія бомбы*

## Тамбурны маскіт

Кніга Зьміцера Вішнёва «Тамбурны маскіт» уражвае па двух намінацыях. Па-першае, сваім поўным літаратурным імбіцылізмам, а па-другое – высокай якасьцю вокладкі, на якую не пашкадавала сродкаў агенцтва Ігара Логвінава «Невский простор». На зайздрасьць старой гвардыі Саюзу Пісьменьнікаў ён выдаў свой, так бы мовіць, «опус» у такой шыкоўнай вокладцы, што нават сусьветна замежныя Павіч і Кундэра засталіся глыбока ў дупе. Але ня дайце сабе павесьціся! За бліскучай абгорткай хаваецца ашчэраная ўсьмешка літаратурнага махляра і фальсыфікатара.




Адзін з (анты)эстэтычных прыёмаў гэтак званага постмадэрнізму – прыбіраць уласную паражнечу ў прыгожыя шаты, бо, як напісаў у анатацыі «тазікаў тата» В.Акудовіч, «Вішнёў бачыць вушамі, а малюе зубамі»; відавочна, дзевак ён пацяшае дванаццаціперстнай кішкай.

## 0 [нуль]

Разам з кнігай Ільлі Сіна пад назвай «0» [нуль], аўтара даўно вядомага нашым чытачам сваімі абортнымі пэрфомансамі. На вачах у непрызвычаенай да экстрэмальных відовішчаў публікі Сін у складзе «Тэатру псыхічнай неўраўнаважнасьці» зжыраў на сцэне сырое мяса і трушчыў курыныя яйкі. Разумейце як хочаце! Але славу дужа экстравагантнага «дзеяцеля іскуства» гэтым ён сабе здабыў. Цяпер жа на суд асьвечанай публіцы ён прадстаўляе порцыю свайго мазгавога соку. Вялікі прыхільнік Einsturtzende Neubauten і Coil заўсёды радаваў сваіх чытачоў квазіэкстраардынарнымі тэкстамі ды перанасычанымі сцэнамі жорсткасьці і гвалту, што выклікаюць толькі агіду. У новай кніжцы сытуацыя ні на 0 не зьмянілася.




## Практычны дапаможнік па разбурэньні гарадоў

І яшчэ адзін вядомы шырокай публіцы літаратар з саліднай рэпутацыяй – Альгерд Бахарэвіч. Яшчэ доўга ён будзе ўспрымацца публікай, як аўтар аднаго вершу, пакладзенага на музыку, – пра страшнага валасатага-паласатага Янку Брыля. Але вось жа й ён напісаў кніжку прозы «Практычны дапаможнік па разбурэньні гарадоў», шмат матэрыялаў зь якой раней друкавалася ў маладзёвых часопісах «Першацьвет» і «Крыніца». Алежка надоўга запомніўся таксама і як лідэр гурту ПРАВАКАЦЫЯ, дзе ён сьпяваў свае тэксты, танчыў і распранаўся, чым прыводзіў у асаблівае захапленьне дзявочую палову публікі. Апавяданьні, якія зрэдку зьяўляліся ў дзяржаўных літаратурных часопісах, дзе рамантычна-шабаноўскі сэнтымэнталізм быў перамешаны з элемэнтамі амаль кафкіянскага гіпэр- і сюррэалізму, таксама не знаходзілі свайго шляху да сэрцаў удзячных прыхільніц. Што ж... «Янка Брыль раве і стогне: ён напэўна хутка здохне!» Але ня здохне беларуская літаратура, пакуль ёсьць таленавітыя майстры слова, якія ўжо прыкідваюць пад свае зады фатэль Вольгі Іпатавай ●




**В.Бялінскі**

*Ні пра штО*

## Нікчэмныя патугі графаманаў

Выйшаў у сьвет чарговы і, трэба спадзявацца, апошні нумар маладзёвага гумарыстычнага літаратурнага альманаху *Nihil* (нішто). Гэты нумар значна таўсьцейшы за папярэднія, у ім больш няма дрэнных аматарскіх фатаграфіяў з голымі дупамі, затое нашмат больш безгустоўнай прозы, парнаграфічнай па форме і дэбільнай па зьместу. Ня ўсё, зразумела, заслугоўвае такой нэгатыўнай ацэнкі – сытуацыя ў літаратуры зараз такая, што часопісаў стала менш, чым аўтараў, якія хочуць (аж пішчаць) недзе друкавацца, а яшчэ менш чытачоў, якія хочуць чытаць усю гэтую хрэнацень. Таму рэдакцыя «Нішта» выкарыстоўвае наіўных графаманаў (тут трэба вызначыць безумоўна таленавітых Дугіна і Бэроўза, якія ўпершыню дэбютуюць на беларускай мове), тых хто робіць высілкі, каб стварыць нешта падобнае да літаратуры – але яна служыць толькі фонам, падобным да каляровай абгорткі ад цукеркі «Тузік», у якой загорнутая звычайная кака.




Рэдакцыя «Нішта», упэўненая ў сваёй бяскарнасьці, друкуе тэксты, за якія ў грамадзтве з традыцыйным мэнталітэтам проста б'юць у табло. Але ж не! «Люстра немагчыма пазбавіць ягонай люстранасьці», як напісана ва ўводным артыкуле. Ці ж так гэта? У люстра можна проста плюнуць, тады яно ня будзе такім люстраным, а можна проста не заўважаць. «Нішто» ўсё ж для люстра надта зьява брудная, а ў сьвеце культуры і мастацтваў нешта даўно ўжо не адбываецца нічога істотнага, каб абмінуць увагай нават гэткую падзею. Калі ёсьць лішні час паблукаць па павуціньні, гэтае «Нішто» можна паглядзець пад адрэсай nihil.nightmail.ru, але лепш набраць ultima.te.ua – прынамсі задавальненьня атрымаеце больш.

**Павал Уласаў**

# Карнікі мастацтва

*Выйшаў зь лесу партызан і пытаецца ў бабулі: «Немцы ў вёсцы ёсьць?» «Што ты, што ты! Ужо бадай шэйсят год як няма!» «Як! А я ўчора цягнік пад адхон пусьціў...»*

Немцы ёсьць (Інстытут Гётэ ў Менску), і партызаны таксама ёсьць – часопіс пад назвай *pARTisan* хутка зьявіцца на паліцах самых рафінаваных беларускіх эстэтаў і проста заўзятых аматараў выяўленчага і сучаснага мастацтва (contemporary art). Кім зьяўляецца мастак у сучасным сьвеце? На думку аўтараў часопісу, мастаку ў сучасным сьвеце даводзіцца трываць у складаных варунках паміж мэнэджэрам (чаўнаком, які перавозіць за мяжу свае няхітрыя падзелкі ў стылі соц-арт, такія як партрэт Сталіна з саломкі, голыя бабы, намаляваныя на цынкавым вядры, альбо чарнушныя фатаздымкі з Чарнобыльскай зоны) і партызанам – такім самым мастаком, які пляце свае лапці з партрэтам ППРБ выключна для сябе і ператвараецца ў кустара-адзіночку. Няпроста й партызанам, бо тут таксама ёсьць два варыянты: партызан, які у гады другой сусьветнай вайны падрываў цягнікі (гэта несапраўдны партызан, квазі-партызан, бо дзейнічаў па загаду таталітарнага сталінскага цэнтру), і сучасны партызан, які ладзіць для людзей прыгожыя пэрфомансы на вуліцы – мяшае партрэт Першага Прэзыдэнта з гноем і заваёўвае сымпатыі прадзьвінутай і дасьведчанай у прыгожых мастацтвах публічнасьці. Асабліва замежнай, бо ўсе матэрыялы маюць кароткую анатацыю на ангельскай мове, аб'ём якой часам большы за арыгінал, для магчымых спонсараў. Бо айчынных спажыўцоў такога «партызанскага» авангарду трэба яшчэ выхоўваць – новага беларуса трэба яшчэ пераканаць, што калі ён і купіў 600-га мэрына, то гэта яшчэ ня крута, а крута – гэта калі ён у сваім салёне выставіць рарытэтную тачку з гноем з пэрфомансу Алеся Пушкіна, дохлыя ваніты Вішнёва на «труп дыктатара» з кардону і катафалк «Сьмерць піянэра» ●

**Зьміцер Залатароў**

# Партызанская балада

**Адпаведна часопісу «Партызан», беларускія партызаны часоў другой сусьветнай былі няправільнымі партызанамі (сымулякрамі), або антыпартызанамі. Забіваючы фашыстаў, яны не вызвалялі краіну, а наадварот, стваралі міталягемы савецкага беларуса, калянізуючы такім чынам культурную самаідэнтыфікацыю ліцьвінаў-крывічоў. Сапраўдныя партызаны знаходзіліся па-за сфэрай рацыянальнага дыскурсу.**

**Што ж рабілі сапраўдныя беларускія партызаны падчас нямецкай акупацыі? Вось толькі некалькі прыкладаў іхніх дзеяньняў.**

**1. Пакуль антыпартызаны ўзрывалі цягнікі, сапраўдны партызан (сябра касты ваяроў, адпаведніка касты японскіх самураеў), накіроўваецца да камэндатуры, кабываліць перад ёй тачку з гноем. Такая форма супраціву (інсталяцыя) павінна асвоіць абшары, недасяжныя для акупацыйнай сыстэмы.**

**2. Пакуль дэміургі эўраазіяцкай культуры, антыпартызаны ціскаюць улёткі са зводкамі савецкага інфармбюро, сапраўдны партызан (спадкаемца духу продкаў), выдае контаркультурныя тэксты, каб захаваць свой культурны код.**

**3. Пакуль антыпартызаны бухаюць і дрыхнуць, сапраўдны партызан (рэфэрэнт культурнага героя), рэпэтуючы свой будучы пэрфоманс «Абсалютна стэрыльны аборт», вучыцца бляваць у тазік. Такім чынам ён пашырае тэрыторыю сваёй партызанскай прысутнасьці і забясьпечвае фундамэнт перамогі над гітлераўскай Нямеччынай.**









# Біл Гейтс – NTхрыст

## Крыжовы паход Macintosh супраць Windows

***Мінулае тысячагодзьдзе было багатым на антыхрыстаў – фанатычны сьветапогляд артадаксальных хрысьціянаў і іжэ зь імі нараджаў іх сотнямі: пачынаючы ад Нэрона і скrandчаючы Дэвідам Капэрфільдам, чыя фокусная інжынэрыя і сёньня не дае вернікам спакойна спаць. Новае тысячагодзьдзе выключэньнем ня стала, паляваньне на ведзьмаў працягваецца і ў наш слаўны XXI век.***

«Біл Гейтс – антыхрыст!» – аўтарытэтна заявіў на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі Стыв' Джобс, галава карпарацыі Apple, нарадзіўшы тымсамым на сьвет новае ўвасабленьне сусьветнага зла. – «Вы ведаеце, што поўнае імя Гейтса – Уільям Генры Гейтс III? Сёньня ён вядомы пад імем Біл Гейтс (III), дзе III – парадкавы нумар. Зараз вазьміце ўсе літары ў словах Bill Gates III (Біл Гейтс Трэці) і канвэртуеце іх у лічбы адпаведна з ASCII кодам (амэрыканскі стандартны код для абмену інфармацыяй): B = 66, I = 73, L = 76, L = 76, G = 71, A = 65, T = 84, E = 69, S = 83, I = 1, I = 1, I = 1.

Калі вы складзеце разам усе гэтыя лічбы, то атрымаеце: 666 –чысло зьвера! Супадзеньне? Магчыма... Але калі вы возьмеце Windows 95 і правядзеце ўжо ўзгаданую працэдуру, то зноў атрымаеце 666. Нават MS-DOS 6.31 у суме дае 666!

У сваім Адкравеньні Ян Багаслоў распавядае нам пра чалавека, надзеленага такой сілай і ўладай, што здолее заняць пасаду Валадара Сусьвету. І Біл Гейтс сапраўды валодае такой сілай, дастаткова ўспомніць, што 80% кампутараў ва ўсім сьвеце (уключаючы і тыя, што ў Пэнтагоне) працуюць на Windows і DOS».

«Ува ўсіх прадуктах, што выпускае карпарацыя Microsoft», – заяўляе далей сп.Джобс, – «усталяваная спэцыяльная праграма, якая адкрывае Гейтсу доступ да кіраваньня ядзернай зброяй, да правакацыі збояў у сыстэмах бясьпекі і фінансавых сыстэмах па ўсім сьвеце. Нават карыстаньне Internet Explorer дазваляе гэтаму сыну сатаны сканаваць ваш кампутар байт за байтам кожны раз, калі вы падключаецеся да сеткі. Магчыма, што канец сьвету блізкі, і гэта толькі вярхушка айсбэргу...».

Скончыў свой выступ сп.Джобс наступнымі словамі: «Памятайце, д'ябал прыйшоў у гэты сьвет, каб хлусіць, красьці і разбураць. Таму сьцеражыцеся Біла Гейтса і Microsoft! Хай будзе з вамі Бог!» І заклікаў усіх прававерных хрысьціянаў набываць кампутары Macintosh – сапраўдны ўзор якасьці і дасканаласьці ад надзейнага пастаўшчыка ●

**Айцец Джошуа,**
прэс-сакратар Apple Corporation



У барацьбе за сьвятыя дзелавыя інтарэсы кампутарныя монстры йдуць на розныя хітрыкі. То адзін аднога абзавуць камуністамі, то антыхрыстам, то ўвогуле абвінавацяць у пэдэрастыі.

## *Як стаць зьвяздой*

Вядомы нашым чытачам сьпявак А.Саладуха, ванансуючы свой новы альбом заявіў, што ягоная прэзэнтацыя нічым ня будзе саступаць шоў Кіркорава. Рыхтуйцеся, мы хутка пабачым нашага земляка ў пер'і, які сварыцца зь беларускай міліцыяй і абзывае нашу краіну таталітарнай. Невядома, наколькі гэта дапаможа Саладуху, бо частку зоркавага іміджу Кіркорава стварае ягоны шлюб з Пугачовай, і чуткі пра трахатню з хлопчыкамі. Калі зорка эстрады рвецца паўтарыць посьпех Кіркорава, яму трэба падкаціць яйкі да Элеаноры Язерскай і пачаць заляцацца да дзівы беларускай блакітнай сцэны – трансвэстыта Вавы. А ўвогуле,трэба арыентавацца на амэрыканскіх зорак, напрыклад, Мэрлін Мэнсана і зрабіць мінет прама на сцэне свайму гітарысту. Вось тады новы альбом сьпевака чакае сапраўдны трыюмф! ●



***Новы імідж А.Саладухі***

## *РэтраграДы*

### D.I.Y. ltd

**Якія тры літары найбольш модныя ў гэтым рок-сэзоне?.. Правільна D.I.Y.! Замест слова Х...Й. альбо N.R.M. менавіта іх хутка пачнуць пісаць на айчынных заборах.**

«А гэта што за хірацень?» – зьдзівяцца недасьведчаныя. Тлумачым: «do it yourself» альбо «змайстрач сам» – гэта калі замест таго, каб штампаваць альбомы на заказ лэйбла і гарбаціцца на чужога дзядзю, круты радыкальны музыка пасылае босаў на хер, называе іх мудакамі, сабакамі й фашыстамі... А потым ідзе працаваць на завод, зарабляючы бабкі на самастойнае выданьне альбому. Разам з модай на радыкальную палітычную музыку гэтая фішка вельмі модная апошнія пару сэзонаў у Беларусі. На хер усялякія кантракты пасылаюць DEVIATION, ZET, НЕЙРО ДЮБЕЛЬ ды КАЛЬЯН... Сьпіс можна працягваць.

Але, як ні дзіўна, галоўнымі апалягетамі беларускага D.I.Y. сталі не яны, а выпертая са «Стылю» сямейка Пратасавых. Стварыўшы разам з Уладам Бубнам «рэвалюцыйны радыкальны праект» АМБАССАДОР'21, яны хутка датумкалі, што на такой музыцы грошай не заробіш. Настругання на хатнім кампу мэлёдыйкі зь біеньнямі электроннага бубена, якія ўцюхваліся даверлівым слухачам за беларускі ATARI TEENAGE RIOT, публіка хавала зь цяжкасьцю.

Ясна, што айчынны музыка любіць некамэрцыйнасьць, але хутчэй павесіцца, чым пойдзе працаваць на завод, як прапануе гэта астатнім. І вось у сьветлую галаву Пратасавых прыйшла ідэя – а ці не стварыць свой уласны (увага!) D.I.Y.–лэйблі.. І ці не стварыць карпарацыю, якая будзе зарабляць бабло на некамэрцыйнай музыцы! Тлумачым яшчэ раз – лэйбл, гэта калі музыкаў гвалцяць па ўмовах кантракту. D.I.Y. – гэта калі музыканты трахаюць лэйбл, адмаўляючыся ад усялякіх дамоваў.

А вось спалучэньне першага з другім – гэта ўжо рэвалюцыйны экспэрымэнт. Уявіце як будуць выглядаць рэклямовыя тэлевізыйныя ролікі: пад скрыгат таго, што музыканты лічаць «digital hardcor'ам», змрочны голас Пратасава прапагандуе «АМБАСАДОР – бухло для сапраўдных рэвалюцыянэраў». Можна прапанаваць і больш шырокі пакет рэклямнага супрацоўніцтва: продаж дыскаў АМБАССАДОРА ў нагрузку да пладова-ягаднай прадукцыі, раскрутку вінішча шляхам гандлю яго на сайце лэйбла, выпуск маек з адпаведнай атрыбутыкай.

**Санітар**

# Булава Гетмана

## (інтэрактыўная аповесьць)

***IXXWCP***

Махаючы кулакамі, пан Андрэй працягнуў сваю прамову.

– Ваўкалак сапраўды пакусаў вашага продка Казіміра Сьліву. А потым ноччу Сьліва ўваскрэс і напужаў касьцёльнага вартаўніка, які прыняў вочы ваўкалака за «вогненныя колы». З дапамогай зьвярынага нюху пярэварацень знайшоў Ядвісю і Ферапонта і напаў на іх. Ферапонт, каб абараніць каханую, надзеў ёй на шыю свой чудадзейны крыж, а сам загінуў ад іклаў цесьця-ваўкалака. Ядвіся, па ўсім відаць, была чуйнай натурай. Яна не перанесла крывавай сцэны гібелі каханка, і яе сэрца разарвалася.

– Хай яно так, дзядзька, але я так і не разумею, пры чым тут булава, – пацікавіўся палкоўнік, ламаючы скіўіцу надакучліваму гараджаніну.

– У летапісу мяне адразу зацікавіла месца, у якім гаворыцца, што жабкавіцкі кашталян перадаў чудадзейны крыж Ферапонта ксяндзу зь Вільні. Я навёў даведкі ў архіве Ордэна езуітаў і высьвятліў наступнае: так як крыж быў праваслаўны, і не зьяўляўся для каталікоў рэлігійнай каштоўнасьцю, яны перапл авілі яго ў залаты зьлітак, які затым абмянялі на дзесяць вазоў солі ва ўкраінскіх чумакоў. Аб чым і сьведчыць вось гэтая даведка. Чалавек, не знаёмы з маім мэтадам рабіць высновы ад праціўнага, падумаў бы, што чумакі прапілі тое золата. Але я, карыстаючыся тым мэтадам, сьцьвярджаю: чумакі ня толькі не прапілі золата, а выплавілі са зьлітку булаву для свайго гетмана. Інакш і быць не магло!

– Ну ты, Андрэй, і галава! А я ўсё на схізматаў грашыў. Зараз у мяне проста вочы адкрыліся, – з імпэтам выдыхнуў Сьліва і назаўсёды закрыў вочы нейкаму сьмецяру.

– Ваўкалак, – працягваў Ст'анкевіч, – мае тэлепатычную сувязь з крыжом, які зьяўляецца яго фэтышам-спадаром. У крыжы сапраўды ёсьць нешта цудадзейнае і пагібельнае для ваўкалака-ваяводы. Той ужо колькі гадоў мірна драмаў у сваім падземным логаве, але з набліжэньнем булавы да нашых мясьцін абудзіўся і пачаў рыскаць па акрузе, каб знайсьці фэтыш і адвезьці ад сябе небясьпеку, якая ў ім схаваная. Падчас свайго бадзяньня злыдзень пагрыз некалькі чалавек, у тым ліку і нашага знаёмага карчмара, і ператварыў іх у ваўкалакаў. Пэўна, яму былі патрэбныя памочнікі. Разам крывавыя пярэваратні загрызьлі вартаўніка і выкралі булаву. Я так мяркую, што ваявода вельмі баіцца той субстанцыі, зь якой выраблена булава, і паспрабуе яе схаваць падалей. Наша мэта: знайсьці ведзьмака, прасачыць за ім і даведацца, дзе ён хавае булаву. А потым пакласьці канец усёй зграі пярэваратняў. Знайсьці ваўкалака будзе ня вельмі цяжка: як бачна з таго ж летапісу, пачвара прыходзіць на магілу Ядзьвігі і Ферапонта кожны год на Сьвятым тыдні, каб паскавытаць ды пагрызьці зямлю. Пэўна, так ваяводу Бог карае! Там мы і возьмем яго цёпленькім!

– Дык ня будзем марудзіць! Сьвяты тыдзень пачынаецца заўтра. У дарогу, дзядзька! – сівы палкоўнік быў поўны рашучасьці.

Сябры выйшлі з карчмы, пакінуўшы ў «Прывабнай жамойтцы» гару непрытомных целаўрамесьнікаў-хуліганаў і рэшткі паламанай мэблі.

– Непакоіць мяне толькі тое, што наш малады сябар пан Бадзяга так і не зьявіўся, – уздыхнуў Андрэй Ст'анкевіч, сядлаючы каня. – Баюся, што ён не паслухаў маёй парады, і зь ім здарылася самае горшае...

***ILCYM***

Змрок абняў зямлю сваімі цёмнымі крыламі. На небе насіліся чорныя, нібы душы грэшнікаў хмары, за якімі зусім не было відаць Месяцу. Стыхія быццам бы адчувала, што гэтай ноччу павінна здарыцца нешта жахлівае. Адчувалі гэта й зьвяры ў лесе і людзі ў вёсках. Таму ўсё жывое яшчэ засьветла схавалася па хатах, норах і бярлогах. Здавалася, што толькі Сьмерць-кума крадзецца па зямлі ў пошуках сваякоў-ахвяр. Над Жабкавіцкай дрыгвой панавала цішыня. Але гэта быў не лагодны эзатэрычны спакой першатварэньня, а глухая, насьцярожаная маўклівасьць, за якой хавалася Спрадвечнае Зло. Пасярод балота, за невялікім верасовым халмом залеглі ў засадзе паны Ст'анкевіч і Сьліва. З гэтай пазыцыі ім было добра відаць усю дрыгву і востраў з магілкай каханкаў-гаротніткаў пасярэдзіне. Сябры сур'ёзна падрыхтаваліся да бойкі зь сіламі Зла: апранулі жупаны навыварат, каб адпугваць ваўкалакаў, а кішэні набілі сьвянцонымі ў царкве кулямі. У дадатак да таго кожны трымаў за пазухай драўляную кувалду і некалькі асінавых калоў, якімі звычайна разрываюць сэрцы пярэваратняў.

– Добра памятаеш сваю задачу? – шэптам запытаўся пан Андрэй.

– Так, памятаю: як толькі зьяўляюцца ваўкалакі, прыцягваю да сябе агульную ўвагу і ўводжу іх у бок лесу па вызначанай намі бясьпечнай сьцяжынцы. Там падрыхтаваная пляцоўка з убітымі па пэрымэтры трыма асінавымі каламі. Як толькі пярэваратні трапляюць туды, ты забіваеш чацьверты кол, і пастка захлопваецца: нячысьцікам ніколі не пераадолець закляцьця асінай. Потым мы разам вынішчаем тую нежыць, а скуры забітых монстраў дзелім напалам. Даўно ў мяне не было такіх паляўнічых трафэяў, – у начы хціва заблішчэлі аскаленыя ва ўсьмешцы зубы палкоўніка.

– Добра, добра. Як бы толькі ня здарылася штонебудзь непрадбачнае... Глядзі! Яны ідуць!

З туману вынырнулі постаці пяцёх чацьвераногіх д'ябальскіх зданяў з гарачымі чырвонымі вачыма і вострымі ікламі. Яны перайшлі дрыгву, спыніліся ля магілы Ядзьвісі і Ферапонта і абступілі свайго важака: вялікага чорнага ваўкалака зь нейкім бліскучым прадметам у зубах. Важак выпусьціў з пашчы свой фэтыш і пачаў дзіка скавытаць і грызьці магільную зямлю. Уся банда пярэваратняў скавытала разам зь ім, нібы выконваючы нейкі жалобны рытуал.

– А вось і булава! Я ведаў, што сёньня ён прынясе яе з сабой! Палкоўнік, час пачынаць! – Андрэй пераджагнаў Сьліву размашыстым уніяцкім крыжам.

Мужны палкоўнік цяжка ўздыхнуў, узьняўся ў

# Хто падставіў Міхаіла Леонава?

***Быццам маркітанскую лодку кідае шараговага чытача ў акіяне палітычнай агітацыі. Усе наравяць уцюхаць яму, фраеру вушастаму, сваю праўду. Возьмем гучную справу дырэктара Менскага трактарнага заводу М.Леонава. Леонава на днях захамуталі на Валадарку. Прэса з г этай нагоды клакоча быццам той Вэзувій. Гаўбіца дзяржпрапаганды – Саўбелка – б е па мазгах прамой навод кай: дырэктар МТЗ – урка сіні, якога да цугундэра давялі крэдыты і пасярэднікі. Намякаюць, што Леонаў замяшаны ў парочных сувязях з Масадам. Нездарма у адным купэ зь нейкім Абрамам у Маскву драпаў. Апазыцыянэры кля нуцца сваёй апазыцыйнай багародзіцай, што Масад і крэдыты тут ні пры чым. Тут палітыка пры чым. Арышт без палітыкі – як шлюбная ноч безь нявесты. А Леонаў быў крышталёвай душы дырэктарам, у крыміналe ён зусім зялёны. Што рабіць чытачу, які нечакана трапіў у эпіцэнтар інфармацыйнай вайны? Патрабаваць для нам энклятурнай бонзы вышку або насіць яму у турэмную келью перадачы. А можа прыгадаць запаветы пост мадэрніста Акудовіча: нахаміць усім і напіцца да гарызантальнаг а становішча.***

## Апазыцыйная прэса:

«Яшчэ ў пэрыяд мінулай прэзыдэнцкай кампаніі стала зразумелым, што на авансцэну барацьбы з дыктатурай выходзіць намэнклятура: Зразумеўшы пагрозу, Лукашэнка намагаецца спыніць яе нарастаньне. Ён паставіў за мэту ізаляваць найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў намэнклятуры». *(Народная воля).*

«Ён (Леонаў) церпіць з-за перадзелу маёмасьці. Леонаў ніколі б не дапусьціў, каб кантрольны пакет акцыяў перайшоў маскоўскім алігархам.
Чалавек, які прапрацаваў два гады дырэктарам заводу, нявольна становіцца сур'ёзным апазыцыянэрам. Сёньня прыбіраюць дырэктараў, якія не жадаюць заляцацца з уладай. Памятаеце, як Леонаў заявіў: «Калі нарэшце мы пачнем рэфармаваць эканоміку?» Такое не даруецца...» *(Народная воля)*

«Яго (Леонава) арышт – гэта помста з боку рэжыму і адначасова палітыка, каб запужаць чыноўніка... Аднак у ягоным арышце ёсьць і пазытыўны момант. Фронт супраціву без сумневу будзе нарастаць і пашырацца» *(Народная воля)*




## Афіцыйная прэса:

«Інфармацыя пра пільны інтарэс да кіраўніцтва заводу з боку праваахоўных органаў ужо даўно была вядомая адміністрацыі прадпрыемства. Больш таго, ужо больш за месяц таму ў адміністрацыі заводу чакалі адстаўкі М.Леонава». *(Советская Белоруссия)*

«Яшчэ ў траўні мінулага году на заводзе была праведзеная праверка гаспадарча-фінансавай дзейнасьці. Па рэзультатах выявіліся парушэньні закону. Леонаў праводзіў апэрацыі зь неграшовымі формамі разьліку. Пракуратурай былі ўзбуджаныя крымінальныя справы ў дачыненьні Леонава па артыкулах: халатнасьць і злоўжываньне кіруючай пасадай. Леонаў быў арыштаваны пры спробе пакінуць Беларусь у цягніку. Пры ім былі знойдзеныя фальшывыя дакумэнты. Ён ехаў па падробленым пашпарце і пад іншым прозьвішчам. Разам зь ім у купэ ехаў грамадзянін Ізраілю.
Канкрэтнае расьследаваньне сьведчыць аб адсутнасьці палітычнай або іншай падставы ў справе». *(Рэспубліка)*

***МЫ ПРАПАНУЕМ СВОЙ МЭТАД:***
***параўнаць дзьве вэрсіі абодвух ля гераў, знайсьці залатую ісьціну і высьветліць для сябе канчаткова, хто хаваецца за лічынай Міхаіла Леонава – Дэ Трэвіль беларускіх трактарабудаўнікоў (доктар Джэкл), або «сьвірэпы расхіціцел ь народнай маёмасьці» (містэр Хайд л).***

**П А С А Д З І Ц Ь   Н Е Л Ь Г А   А Д П У С Ь Ц І Ц Ь**